№ 65 (3806)

20 жніўня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простар, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Сезон адпачынкаў заканчваецца. Сезон падпіскі на “Народную Волю” працягваецца. Каб атрымліваць газету з 1 верасня, падпіску трэба аформіць да 27 жніўня. Вас чакаюць на пошце!**

**Вы — з “Народнай Воляй”, “Народная Воля” — з Вамі!**

РЭПАРТАЖ

# Некаторыя літоўцы ехалі на экскурсію, а трапілі на слуханні

*У Астраўцы прайшоў грамадскі сход па праблемах будаўніцтва Беларускай АЭС*




На мерапрыемстве, якое афіцыйна называлася “Сход з літоўскай грамадскасцю і спецыялістамі па абмеркаванні справаздачы пра ацэнку ўздзеяння на навакольнае асяроддзе Беларускай АЭС”, было ціха і спакойна. Амаль як на з’ездзе кампартыі застойных часоў. Тыя грамадзяне Літвы, якія прысутнічалі ў зале інфармацыйнага цэнтра АЭС, як адзін выказваліся за будаўніцтва станцыі. Такая ж публіка была і з беларускага боку. Недасведчанаму чалавеку магло падацца, што ён прысутнічае на карпаратыве, на якім калі і гучыць крытыка, дык толькі ў межах дазволенага.

Тое, што ніякай дыскусіі не адбудзецца, стала вядома яшчэ напярэдадні прызначанай даты. Вядучыя літоўскія грамадскія арганізацыі, сярод якіх Рух зялёных Літвы, «Атгая», Цэнтр моладзі Літвы, асацыяцыя ZALI.LT і партыя «Літоўскі саюз сялян і зялёных», заявілі пра байкот слуханняў. У сумеснай заяве яны патлумачылі, што не будуць удзельнічаць у «інсцэніроўцы грамадскіх абмеркаванняў», і звярнуліся да беларускага ўрада з патрабаваннем спачатку спыніць будаўніцтва АЭС і толькі пасля гэтага правесці працэдуру ацэнкі яе ўздзеяння на навакольнае асяроддзе, як гэтага патрабуе канвенцыя Эспаа.

Намеснік старшыні партыі «Літоўскі саюз сялян і зялёных» Томас Тамілінас увогуле заявіў, што, згодна з канвенцыяй Эспаа, слуханні трэба праводзіць у Літве. Ён нагадаў, што «праведзеныя раней у Астраўцы слуханні скончыліся для праціўнікаў будаўніцтва атамнай электрастанцыі арыштамі і затрыманнямі”.

Літоўскія эколагі называюць непрымальнымі сцвярджэнні беларускага боку аб бяспецы для літоўцаў атамнай электрастанцыі, якая будуецца ў 50 кіламетрах ад Вільнюса і ў 20 — ад літоўскай мяжы. Аргументы беларускага боку выклікаюць у літоўскіх эколагаў сумненні, а рызыкі аварый, на іх думку, заніжаны. Яны спасылаюцца на высновы незалежных экспертаў — Нарвежскага агенцтва па радыяцыйнай бяспецы. Па даных гэтага агенцтва, у выпадку сур’ёзнай пазапраектнай аварыі на атамнай электрастанцыі, якая будуецца па расійскім праекце АЭС-2006, радыеактыўны цэзій можа распаўсюдзіцца на адлегласць да 1200 кіламетраў і забрудзіць землі на адлегласці 800 кіламетраў ад аварыйнага энергаблока.

Літоўскія журналісты, якія прыехалі на слуханні ў Астравец у мінулую суботу яшчэ да пачатку мерапрыемства, цікавіліся ў намесніка міністра аховы навакольнага асяроддзя Беларусі **Віталія Куліка**, ці ёсць у сувязі з узвядзеннем аб’екта план эвакуацыі жыхароў Вільнюса. Той прызнаваў, што плана эвакуацыі няма, бо “ніякіх сур’ёзных аварый не будзе”.

Тым часам да ганка інфармацыйнага цэнтра пад’ехаў аўтобус з літоўскімі нумарамі. Першым з яго выйшаў мужчына і па-вайсковаму загадаў іншым ісці следам за ім. Як высветлілася, гэта быў кіраўнік грамадскай арганізацыі “Ветэраны Вільнюскага вайсковага вучылішча” **Віктар Бандарэнка**. Група ветэранаў якраз і была запрошана на слуханні ў якасці вялікіх прыхільнікаў будаўніцтва.

“Ой, вы толькі мяне не здымайце і ўвогуле нічога не запытвайце, а то гэта можа нанесці ўрон нашай арганізацыі”, — папрасіўся ён.

І так было з кожным, хто выходзіў з аўтобуса. Ужо потым мы разгаварыліся з мужчынам, які прадставіўся **Яўгенам**. Мяне цікавіла, чаму ветэраны ў зале папрасілі выказаць падзяку паслу Беларусі ў Літве і Фінляндыі Уладзіміру Дражыну. “А як жа?! Калі б не ён, нас тут не было б”, — адказаў Яўген. Высветлілася, што менавіта спадар Дражын забяспечваў паездку. Былы вайсковец распавёў:

— *Дражын быў у нас 23 лютага на сустрэчы выпускнікоў вучылішча. І там паабяцаў, што калі-небудзь нас запросяць у Беларусь, правядуць для нас экскурсіі ў сталіцы і яшчэ кудысьці звозяць. І тут літаральна пару дзён таму мне пазваніў наш кіраўнік Віктар Бандарэнка і запытаўся: “Хочаш на халяву з’ездзіць у Беларусь? Тады давай хутчэй у беларускае пасольства”. Там усё хутка афармілі. І вось я тут. Нас вазілі ў касцёл у Гервяты, нават арган мы там паслухалі. Спадабалася! Але нейкі непрыемны асадак застаўся — нібыта цябе выкарысталі і ўсё. Ніякай экскурсіі, як высветлілася, не будзе. Сказалі, што пасля слуханняў нас адвязуць назад. Вось табе і абяцаная экскурсія.*

**— А вы таксама за будаўніцтва станцыі? Вы ў Вільнюсе жывяце?**

— *Ды я нават не ведаю. Кажуць, што нічога ж страшнага няма. У іншых краінах ёсць АЭС і нічога. Пакуль, здаецца, усе жывыя.*

**— А раптам аварыя, як у Чарнобылі?**

— *Ну, трэба спадзявацца, што ўсё абыдзецца... А вы спытайце пра гэта ў якога спецыяліста. Я ў гэтым не вельмі разбіраюся. Мая функцыя тут — сказаць, што я не супраць будаўніцтва. Я, у прынцыпе, і не супраць.*

Калі вайскоўцаў прывезлі па-вайсковаму арганізавана, то былі ў Астраўцы і іншыя грамадзяне Літвы. Але і тут без беларускага пасольства, напэўна, не абышлося. Разгаварыліся з **Вітай Кавалеўскене**.

— *Я жыву ў Тракаі цяпер, а раней жыла каля Ігналінскай АЭС. Мне прапанавалі з’ездзіць сюды. Хто? Нават не ведаю дакладна, здаецца, з нашага сейма. Я ж так разумею, што тут усе за будаўніцтва. Вы таксама?*

**— Асабіста я супраць.**

— *О-о-о, а я таксама супраць. Але тут паўсюль кажуць, што ў вас у Беларусі ўсе хочуць, каб пабудавалі гэтую станцыю, і толькі літоўскі бок робіць перашкоды. Дык я ўжо сяджу і маўчу. Неяк дзіўна!.. Але вось прыехала, пабачыла гарадок гэты — Астравец. Спадабаўся. Толькі вось нагу падвярнула на прыступках, ды і раменчык на басаножцы адарваўся... Нічога, хутка ўжо дадому нас павязуць.*

Сярод удзельнікаў абмеркавання былі і сапраўды апантаныя прыхільнікі будаўніцтва АЭС. Адзін з іх — **Алег Давідзюк** — узначальвае беларускую суполку ў Вісагінасе. Ён шмат гадоў працаваў на Вісагінскай АЭС. Усе як адзін члены дэлегацыі, якую ўзначаліў Давідзюк, пераконвалі ўсіх у тым, што ад АЭС усім толькі карысць. Яны канстатавалі, што пасля выключэння апошняга блока іх горад зусім апусцее, і ўзгадвалі тыя часы, калі ў Вісагінасе жыло больш за 30 тысяч чалавек. З жалем гаварылі, што горад пераходзіць у шэраг бесперспектыўных. Алег Давідзюк, чалавек пенсіённага ўзросту, так эмацыянальна выступаў, што нават заявіў, што з задавальненнем паедзе ў Астравец працаваць на станцыі.

Як бы там ні было, але будаўнічыя работы на аб’екце вядуцца. Жыхары навакольных вёсак, праўда, распавялі, што з будоўлі можна набыць шмат чаго карыснага — рабочыя прадаюць.

“Прыехаў да нас мужык, які тут на будоўлі працуе, і сказаў, што ёсць жалеза з шахты, — “частавала” нас расповедамі пра жыццё-быццё мясцовая гаспадыня. — Я запыталася, ці не будзе потым у нас праблем, бо яшчэ скажуць, што мы крадзенае купляем. А ён: “Ды не, не хвалюйцеся. Там такія глыбокія шахты... Дык мы тое жалеза бяром з самага нізу. Там жа ніхто правяраць нічога не будзе”. Я яму кажу: “Во, дык, можа, з-за такога і Чарнобыль выбухнуў”. А ён: “Не бойцеся, там яшчэ жалеза хопіць. Не хочаце, дык іншыя купяць”. А мы ж дом нядаўна пабудавалі, і далей тут у нас вунь будоўля. Падумала: а чаму б не набыць танна? У гаспадарцы ж спатрэбіцца...”

**Любоў ЛУНЁВА.**

ДАРЭЧЫ



## *Лінас ЛІНКЯВІЧУС, міністр замежных спраў Літвы:* “Нам не патрэбна шоу”

Літву «здзіўляюць і засмучаюць» дзеянні Беларусі ў сувязі з будаўніцтвам АЭС у Астраўцы, заявіў кіраўнік МЗС Літвы Лінас Лінкявічус, каментуючы праведзеныя ў Астраўцы грамадскія слуханні пра бяспеку будучай станцыі.

*«Узнікае пытанне: калі ўсё ідзе бяспечна і роўна, чаму яны не выконваюць патрабаванні Канвенцыі Эспаа? Канвенцыя Эспаа — прызнаны ў міжнародным маштабе дакумент, менавіта ён вызначае пытанні ядзернай бяспекі, звязаныя з гэтым пытанні, асабліва калі гаворка ідзе пра суседнія краіны»,* — цытуе Лінкявічуса інфармагенцтва BNS.

Кіраўнік МЗС у чарговы раз падкрэсліў, што публічныя слуханні немагчымыя, пакуль Беларусь не прадставіла адказы на зададзеныя Літвой пытанні. *«Нам не патрэбна шоу, нам трэба, каб паслядоўна выконваліся патрабаванні Канвенцыі Эспаа як належыць»,* — заявіў Лінкявічус.

Беларускія ўлады, паводле яго слоў, дагэтуль не растлумачылі, чаму для будаўніцтва АЭС абралі менавіта Астравецкую пляцоўку, што за 50 км ад Вільнюса. Няма адказу і на пытанне, чаму Беларусь не праводзіць сейсмічныя выпрабаванні, улічваючы, што ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя ў гэтым месцы былі зафіксаваны моцныя землетрасенні. Літва таксама сцвярджае, што ўсё яшчэ чакае адказу на пытанне, як будуць праводзіцца работы па ахаладжэнні рэактара.

*«Яны цяпер загразлі ў гэтай сітуацыі і, мабыць, шукаюць нейкія выхады. Кампрамісаў тут быць ніяк не можа, я хачу вельмі рашуча сказаць. Гэта не так сабе аб’ект, гэта ядзерны аб’ект. Гэты праект існуе толькі на чарцяжах, як кажуць спецыялісты, толькі ў праектах, ён нідзе не быў рэалізаваны. Таму не можа быць ніякіх кампрамісаў адносна даследавання ўздзеяння на навакольнае асяроддзе»,* — сказаў Лінкявічус.

ДА ЎВАГІ

# Літва ўвяла збор за дэзінфекцыю ад афрыканскай чумы свіней

Урад Літвы ў панядзелак зацвердзіў увядзенне збору за дэзінфекцыю грузавых аўтамабіляў на мяжы Літвы і Беларусі ў мэтах прафілактыкі распаўсюджвання АЧС, а таксама ўнёс змены ў закон аб экстрэмальных сітуацыях.

*«Былі прыняты два рашэнні: грузавыя аўтамабілі пры перасячэнні беларуска-літоўскай мяжы павінны будуць плаціць 25 літаў (7,24 еўра), таксама прынята пастанова аб змене пэўных крытэрыяў экстрэмальных сітуацый, каб можна было выкарыстоўваць сродкі ўрадавага рэзерву»,* — сказаў прэм’ер-міністр Літвы **Альгірдас Буткявічус.**

Па словах прэм’ера, падстаў аб’яўляць экстрэмальную сітуацыю ў краіне пакуль няма, тым больш што гэта можа перашкодзіць экспарту.

СТОЛИЦА

# Ладутько выступил против уличной торговли

Выслушав доклад начальника инспекции Министерства по налогам и сборам по Минску Владимира Лайкова, председатель Мингорисполкома Николай Ладутько заявил, что все места, где процветает несанкционированная торговля, специалистам известны. Таких точек в столице насчитывается около 25.

*«Ваша задача вместе с МВД навести в городе порядок,* — заметил Ладутько, обращаясь к руководителю инспекции. — *Бабушки, которые реализуют домашние закатки, — это одно. А вот все остальное, то, что является незарегистрированным видом предпринимательской деятельности, должно жестко пресекаться».*

*«Через такие места в выходные дни проходит практически миллион человек. В их сознании формируется ощущение вседозволенности, неумения или нежелания властей реагировать на подобные факты»,* — подчеркнул председатель Мингорисполкома.

Он добавил, что соответствующие меры в отношении нелегальных торговцев следует принять в кратчайшие сроки.

БЕЗ МЕДАЛЕЙ

# “У нас вся команда — “в заднице”




На московском чемпионате мира по легкой атлетике белорусская сборная не завоевала ни одной медали. Более того, из 27 участников сборной в финал пробилась лишь Ольга Сударева, занявшая 4-е место в прыжках в длину. В основных соревнованиях выступали ядротолкательца Елена Копец и молотобоец Юрий Шаюнов, занявшие в итоге 12-е места. Такая же позиция в десятиборье у Андрея Кравченко.

Не смогла пробиться в финал барьерной стометровки Алина Талай. В полуфинале она финишировала четвертой, от последней из финалисток француженки Бело ее отделили несколько сотых секунды.

После забега Алина, которая, к слову, выступала на чемпионате без тренера, в интервью «Прессболу» призналась: чтобы дойти до финала, ей не хватило тренерских подсказок и скоростной выносливости.

**— Возможно, не хватило не только специализированной подготовки, но и фармакологической поддержки? — поинтересовались журналисты.**

— С этим вообще беда, — откровенно заявила Алина Талай. — Я не говорю о запрещенных препаратах, речь о нормальных разрешенных средствах восстановления. Потому что на этом уровне без восстановителей через два месяца откинешься. А тут дошло до того, блин, что я сама себе фармакологическую программу расписываю! Вы где-нибудь такое видели?! Откуда у меня могут быть знания для этого? В интернете почитала, с кем-то поговорила... Но это же ненормально! Посмотрите, у нас вся команда — «в заднице». Один финал — на всех... Но Оля Сударева — молодчинка!

«Сейчас меня снимут со всех стипендий, — призналась бегунья. — У нас теперь их только на год назначают. Так что зимой придется зарабатывать новую».

ГУЧНАЯ СПРАВА

# *Шкода дзяржаве — амаль мільярд рублёў*

Як паведаміў прадстаўнік Следчага камітэта па Мінску **Аляксандр Герасімаў,** арыштаваны ўладальнік «Данькаў-клуба» і яго адвакат азнаёміліся з матэрыяламі крымінальнай справы. Пракурор рыхтуе справу для перадачы ў суд.

Юрыя Данькава абвінавачваюць па сямі артыкулах Крымінальнага кодэкса. Па версіі следчых, Данькаў са студзеня 2007-га па верасень 2012 года ўхіляўся ад выплаты падаткаў і збораў, што нанесла дзяржаве шкоду на 918.105.170 рублёў; у 2011–2012 гадах арганізоўваў і ўтрымліваў з выкарыстаннем службовых паўнамоцтваў у сваім клубе прытон для заняткаў прастытуцыяй, а таксама выкарыстоўваў заняткі прастытуцыяй іншымі асобамі для атрымання матэрыяльнай выгады; уносіў ілжывыя звесткі ў дакументы, выдаваў несапраўдныя дакументы; падробліваў дакументы і распаўсюджваў іх; дапамагаў у фальсіфікацыі доказаў па грамадзянскай справе асобе, якая ўдзельнічала ў справе; уцягваў жанчын у заняткі прастытуцыяй з мэтай атрымання выгады; захоўваў з мэтай рэкламавання і рэкламаваў парнаграфічныя матэрыялы, а таксама публічна дэманстраваў парнаграфічны відэафільм.

Юрый Данькаў быў арыштаваны 4 верасня 2012 года.

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

# Лекарственная недостаточность

В начале лета из белорусских аптек пропал французский препарат «Нолипрел форте А». Тысячи гипертоников в растерянности, многие годами контролируют давление с помощью этих французских таблеток. Провизоры в аптеках разводят руками: ничего поделать не можем, представительство компании-производителя «Лаборатория Сервье» разослала официальное письмо, что препарат находится на перерегистрации в белорусском Центре экспертиз и испытаний в здравоохранении.

Сначала фармацевты предлагали покупать тот же препарат, но меньшей дозировкой — «Нолипрел А» — и принимать по две таблетки. Это получалось дороже, но кто думает об экономии, когда речь идет о здоровье! Но недавно из минских аптек пропал и «Нолипрел А». Работники аптек предупреждают, что в лучшем случае лекарство поступит в продажу в сентябре, советуют приобретать препарат в России, Украине, потому что заменить его дженериком невозможно. «Нолипрел» — оригинальный препарат, аналогов его пока нигде в мире не делают.

Белорусские медики устали повторять: артериальная гипертензия — болезнь номер один в Беларуси, повышенным давлением страдают почти 2 миллиона жителей страны. Принимать лекарства, нормализующие давление, нужно каждый день, потому что контроль за давлением в первую очередь позволяет снизить риск развития инфарктов миокарда и инсультов. То есть тех болезней, которые чаще всего убивают белорусов.

Казалось бы, в такой ситуации все ведомства, все чиновники должны быть обеспокоены тем, чтобы обеспечить широкий выбор антигипертензивных препаратов в белорусских аптеках. Популярен у пациентов препарат нового поколения «Нолипрел», помогает в борьбе с повышенным давлением — значит, на рынке он должен быть представлен в необходимом количестве.

Но что получается? Компания-производитель с апреля не может пройти перерегистрацию в нашем Центре экспертиз и испытаний.

Безусловно, то, что чиновники заботятся о нашей безопасности и тщательно охраняют наш рынок от фальшивок, — похвально. Но в данном случае речь идет о перерегистрации проверенного препарата. С 2007 года «Нолипрел» продается в белорусских аптеках. В Европе и странах СНГ он настолько популярен, что французской компании пришлось открыть дополнительную производственную линию в России. Наверное, потерю такого небольшого рынка, как Беларусь, производители «Нолипрела» и не заметили бы. Поэтому еще большой вопрос, кто должен быть больше заинтересован в наличии этого препарата в белорусских аптеках — фирма-производитель или все-таки наши чиновники от фармации.

Но, говорят, процесс тормозится из-за мелочи, каких-то опечаток, неточностей, которые наши чиновники выявляют в подаваемых на перерегистрацию документах. Представители «Сервье» и рады бы их устранить, но где и в чем конкретно они ошиблись, им не говорят. Мол, внимательно читайте инструкции.

Самое интересное, что в Евросоюзе и России уже несколько лет действует закон о бессрочной регистрации лекарств. Один раз фармацевтическая компания получает разрешение на продажу лекарства в данной стране — и работает спокойно. Компания освобождена от изнурительной процедуры перерегистрации, от которой, как показывает практика, неудобства испытывают в первую очередь пациенты. Только в Беларуси эту норму все никак не введут. Поэтому история с французским «Нолипрелом» далеко не единственная в списке тех, когда зарубежный производитель месяцами не может пройти в Беларуси перерегистрацию лекарственного препарата. Некоторые, устав от нашей бюрократии, вообще прекращают поставки тех или иных таблеток. А белорусы вынуждены искать родственников и знакомых по всему миру, чтобы достать нужное лекарство.

Сегодня заказ лекарств из Украины и России — привычное дело. Многие белорусы покупают лекарственные средства, витамины за пределами страны, потому что там дешевле, потому что некоторые таблетки исчезли с нашего рынка, а иные препараты у нас вообще не зарегистрированы, хотя врачи настоятельно рекомендуют принимать именно их, тогда лечение будет эффективным.

Думаете, чиновники от фармации этого не знают? Конечно, знают. Но постоянно пытаются убедить нас в том, что находятся в неустанном поиске, как удовлетворить спрос белорусов на импортные лекарства, и что взятый в последние годы курс на производство отечественных препаратов никоим образом не отражается на ассортименте зарубежных лекарств.

Но, как показывает практика, от всех этих чиновничьих стараний мы получаем не изобилие импортных лекарств, а либо их дефицит, либо продажу втридорога.

Несколько последних лет каждый год Минздрав подписывает мораторий на рост цен с поставщиками лекарств. Но каждый наш поход в аптеку заканчивается одним и тем же выводом: лекарства снова подорожали. Уже и доллар стоит на месте, и девальвации (тьфу-тьфу) обходят нас стороной, а цены на лекарства как росли, так и растут. Вот, например, красноречивый пример.

В прошлом году в Беларуси было продано лекарств на сумму свыше 810 млн долларов. Это значительно больше, чем в 2011-м, когда на лекарства белорусы потратили 650,4 млн долларов, и даже в докризисном 2010 году (676,4 млн долларов). Но что показательно: заработал в прошлом году фармрынок почти на четверть больше, но непосредственно самих таблеток, настоек и микстур белорусы купили всего лишь на 2,8% больше. Это говорит о том, что прибыли фармрынка росли только за счет того, что повышались цены на лекарства.

...Сентябрь не за горами. А значит, осталось недолго ждать ответа на вопрос, смогут ли гипертоники покупать «Нолипрел» в Беларуси или все же придется им налаживать канал поставок таблеток из-за рубежа. Только что тогда будут говорить чиновники от фармации?!

# Дзевяноста першы

*Сяргей НАВУМЧЫК*

## Путч. Супраціў



Тут на нашых з Пазьняком тварах прачытваюцца бяссонныя ночы жніўня 1991-га.

*(Пачатак на стар. 7.)*

Мы маем дачыненне з таталітарным прыёмам захопу ўлады.

Дэпутаты ад Апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР заклікаюць усіх грамадзян Беларусі захоўваць арганізаванасць, вытрымку і дысцыпліну, выконваць толькі рашэнні канстытуцыйных органаў улады. Заклікаем нашых выбаршчыкаў правесці 20 жніўня, у нерабочы час, пасля 18 гадзін, сустрэчы з народнымі дэпутатамі ўсіх узроўняў і запатрабаваць спынення дзейнасці незаконнага «Дзяржаўнага камітэту па надзвычайным становішчы ў СССР».

Мы звяртаемся да ваеннаслужачых савецкіх Узброеных Сіл, супрацоўнікаў МУС і КДБ БССР з заклікам захоўваць вернасць Канстытуцыі Беларускай ССР і Саюза ССР, свайму службоваму абавязку, пазбягаць ужывання сілы і ўстрымацца ад падтрымкі неканстытуцыйных органаў.

Апазіцыя ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР патрабуе тэрміновага склікання надзвычайнай сесіі ВС БССР для абмеркавання становішча і прыняцця неабходных захадаў.

Народныя дэпутаты БССР Л.Баршчэўскі, Ю.Беленькі, І. Германчук, В.Голубеў, Г.Грушавы, Б.Гюнтэр, Л.Дзейка, У.Заблоцкі, Л.Зданевіч, В.Какоўка, М. Крыжаноўскі, С.Навумчык, У. Новік, Я.Новікаў, З.Пазьняк, С. Папкоў, П.Садоўскі, С.Слабчанка, У.Станкевіч, Г.Сямдзянава, А. Трусаў, Я.Цумараў. 19 жніўня 1991 г.».

Крыху пазней Пазьняк напісаў лісты да старшыні Савета міністраў Вячаслава Кебіча, старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага і міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Ягорава з заклікам «праявіць дзяржаўную мудрасць, вытрымку, вернасць Беларускай рэспубліцы, не прымаць ніякіх патрабаванняў і загадаў так званага Камітэта па надзвычайным становішчы, выконваць законы і Канстытуцыю БССР». Кожны ліст падпісалі некалькі дэпутатаў БНФ, якія ў той момант былі ў пакоі апазіцыі.

Пётра Садоўскі, які ўзначальваў парламенцкую камісію па міжнародных сувязях, быў адзіным з дэпутатаў БНФ, які меў факс, і неўзабаве нам удалося ўсталяваць сувязь з атачэннем Барыса Ельцына. З Масквы нам пераслалі тэксты ўказаў — пад усімі, акрамя подпісу, Ельцын пазначаў і канкрэтны час.

У тыя трывожныя дні путчу 363-і пакой Апазіцыі БНФператварыўся ў штаб супраціву хунце.

Разам з намі запатрабаваў склікаць сесію Станіслаў Шушкевіч — ён звязаўся з кіраўніком Кіргізстану Аскарам Акаевым, які не падтрымаў ГКЧП. Званіў ён і некаторым іншым дэмакратычным палітыкам «пры пасадах»: у яго як у першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета быў тэлефон адмысловай урадавай сувязі, так званая лінія ВЧ, доступ да якой мелі найвышэйшыя кіраўнікі СССР, рэспублік і рэгіёнаў, камандуючыя вайсковых акруг і ўпраўленняў КГБ. (Увесну таго самага 1991-га Яўген Будзінас выдаваў зборнік артыкулаў Андрэя Сахарава і папрасіў мяне дамовіцца з мэрам Ленінграда Анатолем Сабчаком, які лічыўся паплечнікам Сахарава па міжрэгіянальнай дэпутацкай групе, наконт прадмовы да кнігі. Мы з Сабчаком не былі знаёмыя, і я пайшоў да Шушкевіча. Ён пасунуў да мяне тэлефон ВЧ: «Званіце!» Сабчака на месцы не аказалася, і я перадаў просьбу ягонаму вельмі ветліваму памочніку. Прозвішча памочніка — Пуцін — нічога мне не казала.)

Шушкевіч звярнуўся да Дземянцея з прапановай склікаць нечарговую сесію, але станоўчага адказу не атрымаў. Пазіцыя Шушкевіча як першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета ў дні путчу, асабліва тое, што ён выказаўся за нечарговую сесію, была для нас падтрымкай.

### Мінчукі выйшлі на плошчу

Але мы разумелі, што наўрад ці здолеем нешта зрабіць без падтрымкі людзей.

А з гэтым было цяжка. У нас не было доступу да тэлебачання і радыё (кіраўнік дзяржтэлерадыё Аляксандар Сталяроў у той дзень памяняў праграмную сетку, каб трансляваць распараджэнні ГКЧП), афіцыйныя газеты назаўтра змясцілі загады ГКЧП на першых палосах. У нас заставаліся «Свабода», «Навіны БНФ», вядома, была сувязь і з карэспандэнтамі Радыё Свабода. Асноўныя мітынгі мы разлічвалі правесці 20 жніўня (эфір Свабоды быў толькі ўвечары 19-га, а раніцай 20-га маглі ўжо выйсці нашыя газеты, раней паведаміць пра месца і час акцый не было як), але праз «каналы» БНФ мы заклікалі прыйсці людзей да Дома ўрада ўжо сёння, увечары 19-га.

Некаторыя прыйшлі на гэты заклік, некаторыя — самі.

Людзей было мала.

У параўнанні з колькасцю, якую сабрала падвышэнне цэн у красавіку (тады штодня стаяла некалькі дзясяткаў тысяч) прыйшла, можна сказаць, мізэрная колькасць, добра калі дзвесце чалавек. А магчыма, і менш.

Людзей было ў той, першы, дзень путчу няшмат, але галоўнае — яны прыйшлі.

І гэта былі людзі, якія прыйшлі бараніць свабоду і Беларусь, і ніякія падачкі не прымусілі б іх адмовіцца ад сваіх намераў.

Мы выступілі ўсе — маю на ўвазе тых дэпутатаў БНФ, якія былі ў Доме ўрада, — распавялі пра паход да Дземянцея, пра пазіцыю Ельцына, патлумачылі, чаму вымушаныя падтрымаць Гарбачова і чаму патрабуем склікаць нечарговую сесію, і папрасілі людзей прыйсці на плошчу заўтра і прывесці знаёмых.

Мы імкнуліся трымацца бадзёра — хаця ўсведамлялі ўсю складанасць сітуацыі. Магчыма, было б лягчэй, калі б на плошчу прыйшло не дзве сотні, а некалькі тысяч. І ўсё ж бачыць твары аднадумцаў тады, увечары 19 жніўня, было для нас важна.

Нехта з калег-дэпутатаў сказаў мне напаўжартам: «Можа быць, мы выступаем на гэтай плошчы апошні раз!»

Ніхто з нас не ведаў, што выказванне магло спраўдзіцца: 20 жніўня на станцыю Мінск-Радыятарная падагналі тыя восем закратаваных вагонаў...

Але ўвечары 20-га на наш заклік на плошчы сабраліся ўжо тысячы.

19—20 жніўня 1991 года мы ў апазіцыі абмяркоўвалі, колькі працягнецца дзейнасць ГКЧП. Здаецца, пагадзіліся на тым, што нядоўга: год-паўгода.

Потым мне распавядалі, як на некаторых «інтэлігенцкіх кухнях» у Мінску дэмакратыю пахавалі і абмяркоўвалі, ці хутка закрыюць межы: эміграцыя выглядала рэальнай альтэрнатывай шматгадовай палітычнай і духоўнай багне. Мы, дэпутаты, ужо больш ведалі пра «рэсурс» апарату і разумелі, што «доўгіх гадоў» у новай улады не будзе. Але гэта было слабым суцяшэннем: году хапіла б, каб загнаць пад асфальт усё тое, што прабілася на святло ў апошні час.

І толькі Пазьняк сказаў: «Пратрымаюцца дні тры, ну максімум — тыдзень».

Мне гэта падалося проста нерэальным.

На тыдзень я не разлічваў. Думаў, што год хунта дакладна пратрымаецца, і таму часы наперадзе цяжкія. (Пэўна, так меркаваў і Валянцін Голубеў, які на мітынгу сказаў: «Надыходзяць часы цяжэйшыя».)

У тыя тры «путчаўскія» дні да мяне вярнулася адчуванне, якое я перажыў сем гадоў раней, калі «забралі» ў войска: тады было поўнае ўсведамленне, што наперадзе — два страчаныя, выкрасленыя з біяграфіі гады, якія пройдуць без усякага плёну, і пакуль былыя аднакурснікі будуць нешта рабіць і нечага дасягаць, я буду марнаваць час у казарме і на палігонах. (Памыляўся: войска сапраўды забрала час, але і дало нешта такое, чаго не атрымаў бы, працуючы ў газеце.) Але разам з адчуваннем наканаванасці лёсу, які на бліжэйшыя два гады не зменіш, была і пэўнасць: толькі два гады. Цяпер жа наперадзе — невядомасць. І пры гэтым ніякага выбару — у тым сэнсе, што адмовіцца ад палітыкі, выйсці з Народнага Фронту, «залегчы на дно» ці вярнуцца ў «чыстую журналістыку» — такія варыянты я не разглядаў. Пэўнасць што да характару маёй будучай палітычнай дзейнасці была абсалютнай. І разуменне таго, што назад дарогі няма, давала нейкую лёгкасць.

Але тады на рэфлексіі не было часу. Мы, дэпутаты, разумелі, што ні на секунду не павінны выказваць сумненне ў перамозе, што на нас глядзяць і што, калі хочам арганізаваць супраціў, трэба выглядаць аптымістамі.

Праз 20 гадоў мне перадалі з архіва Уладзіміра Кармілкіна некалькі сотняў здымкаў, на якіх зафіксаваны тыя жнівеньскія дні і нашы мітынгі. І толькі на адным Кармілкін падлавіў момант, дзе ў нас з Пазьняком нейкі «небаявы» настрой. Але гэта падманлівае ўяўленне: насамрэч настрой быў самы рашучы, можа, проста на некалькі секунд выявілася стомленасць (у тыя дні мы моцна недасыпалі). На астатніх здымках усе выглядаем бадзёра.

Але што змоўшчыкі пратрымаюцца тры дні — не, тут я з Пазьняком быў не згодны.

*(Працяг будзе)*

ЗАКУЛИСЬЕ

# «Телезрители это оценят»

***Глава Белтелерадиокомпании Геннадий Давыдько заявил, что в Беларуси может появиться спортивный телеканал. Он озвучил даже конкретные сроки его рождения — лето 2013-го. Но на исходе август, а новый канал пока не появился.***



## Когда ждать обещанного?

— Работа идет и уже выходит на финишную прямую, — рассказал «Прессболу» руководитель дирекции спортивного вещания БТРК **Павел Булацкий.** — Есть, правда, вещи, которые могут и затянуть строительство, и его ускорить. Трудностей, конечно, хватает. Скажем, удивляет инертность некоторых государственных служб. Хотя мы были готовы к этому. Вообще, для примера: в Казахстане для открытия спортивного канала потребовался целый год. У нас же дистанция выходит в два раза короче...

С созданием канала «Беларусь 5» наши болельщики беспрепятственно смогут следить за наиболее значимыми соревнованиями — и международными, и республиканскими. Главное — это то, что мы сможем показывать все самое интересное в прямом эфире. Тогда как сейчас не всегда представляется такая возможность. Думаю, телезрители это оценят.

ФОТАФАКТ

# На дапамогу рэдкай расліне





Днямі ў сталічным Батанічным садзе адбылася незвычайнае мерапрыемства — дабрачынны вечар са зборам сродкаў для развядзення «беларускай архідэі», якая знаходзіцца пад пагрозай знікнення, — дзікарослай расліны венерын чаравічак.

Мерапрыемства арганізавалі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Цэнтральны батанічны сад НАН Беларусі і дызайнер Людміла Лабкова, якая прадставіла сваю новую калекцыю сезона вясна—лета 2014 года.

Сабраныя сродкі накіраваны на развядзенне венерынага чаравічка ў штучных умовах з наступнай высадкай у натуральнае асяроддзе ў рэспубліканскім ландшафце.

# Что будет вскоре популярно в Минске?

***CityDog.by разузнал у ресторатора, арт-директора и организатора Недели моды о новых тенденциях в их профессиях, которые уже просматриваются в других странах, но пока не дошли до Минска. Но это, конечно, дело времени.***

**Анна Чистосердова, арт-директор галереи «Ў»:**

— Я не люблю понятия «тренд» и «мода», особенно если мы говорим об искусстве: чаще всего они возникают, чтобы это искусство быстро и дорого продать. Но об определенных тенденциях говорить можно: современное искусство в последние годы активно сопряжено с работой художников и кураторов с социумом. Как правило, художественные проекты и акции направлены в этом случае на выяснение или решение проблем, существующих в обществе, — социальных, политических, экологических, на улучшение окружающей действительности, критическое осмысление прошлого и настоящего.

Большинство арт-проектов сегодня — это синтез художественных практик и других дисциплин (философии, истории, урбанистики, социологии, экологии, точных наук). Галереи и центры современного искусства в последние годы превратились из закрытых элитных мест в платформы для коммуникаций, образования, а объекты искусства — в инструменты создания диалога между художником (куратором) и посетителем выставки.

Одно из самых известных арт-пространств бывшего СССР — дизайн-завод «Флакон»: в помещении бывшего завода теперь постоянно проходят выставки, кинопоказы, мастер-классы, фестивали и концерты.

В большинстве галерей и центров современного искусства помимо выставочного пространства вы найдете магазин с книгами по искусству, приятными мелочами, там же будет небольшое кафе или библиотека. В мировой практике в последние десятилетия арт-центрам, галереям или студиям отдаются старые индустриальные помещения. К сожалению, в Беларуси до сих пор эта мода не прижилась.

Мировые и белорусские тренды часто не совпадают. Например, размещать галереи в лофтах — это пройденный этап для Европы хотя бы потому, что все постиндустриальные помещения там уже заняты. Нам же это по-прежнему в новинку.

**Янина Гончарова, руководитель оргкомитета BFW:**

— Белорусам в одежде не хватает раскрепощенности, и свободно одеваться они начнут еще не скоро. В других европейских странах люди иначе относятся к моде и одежде — например, мужчины не боятся ярких вещей, при этом выглядят уместно и элегантно. Привычная картинка: мужчина в хорошем костюме и мягких туфлях едет на работу на велосипеде. Носить только яркое необязательно: в том же Копенгагене и Стокгольме любят вещи серого цвета, у которого, кстати, очень много оттенков. У датчан и норвежцев кожзам и искусственный мех не считаются чем-то плохим, потому что они заботятся об экологии.

У нас любят бренды Prada, Armani, Dior, но это все консервативная мода. Не нужно бояться сочетания, допустим, пиджака Armani и брюк от белорусского дизайнера Таракановой.

Когда я бываю в других странах, меня часто фотографируют для блогов уличной моды. За границей я могу позволить себе одеться не так, как в Беларуси, более раскрепощенно. Возвращаясь из путешествий, я по инерции надеваю приметные вещи необычного кроя и стиля, чаще очень простые, но привлекающие внимание. Можно выбрать майку с широким вырезом на спине или на груди или прозрачную, но в рамках дозволенного, разумеется. Приходится через пару дней быстро перестраиваться: в такой одежде в Минске не прогуляешься.

**Александр Астрашевский, ресторатор:**

— В мировом ресторанном бизнесе в тренде сейчас использование местных продуктов, молекулярная кухня и вегетарианство. Например, в датском «Нома», который неоднократно признавался одним из лучших европейских ресторанов, большинство блюд готовится с использованием местных продуктов вплоть до мха и лишайника.

Но я консерватор, желающих поэкспериментировать на людях хватает и без меня. Моя же цель — кормить посетителей вкусно и по возможности недорого. И хотя все перечисленные тенденции мне интересны, тот, кто возьмется за их реализацию, может столкнуться с определенными трудностями.

Для примера: когда-то израильское посольство предложило открыть в Минске ресторанчик с еврейской кухней. Так вот, по ходу дела выяснилось, что в еврейской кошерной еде есть чуть ли не пять разных группировок. То же самое с вегетарианством: тут тебе и веганы, и сыроеды, и еще кто-то. Можно сделать вегетарианское меню, а потом тебе скажут: «Тут неправильно, да и это не так». Но открытие вегетарианского ресторана в Минске сегодня абсолютно реально. Все зависит только от потребителя.

НУ И НУ!

# Водители все чаще стали снимать номера, чтобы не попасть в объективы камер скорости

«В последнее время некоторые автомобилисты, пытаясь уйти от административной ответственности, снимают свои регистрационные знаки и таким образом не дают фиксатору возможность определить владельца машины, — сообщили о негативной тенденции в УВД Минской области. — Такие правонарушения особенно распространены в пятницу, субботу и воскресенье, в период с 15 до 21 часа, когда возрастает поток граждан, направляющихся к местам массового отдыха, на экскурсии или дачи».



С обеих сторон трассы Брест — Минск — граница России на 309-м километре (территория Дзержинского района) установлены датчики, за которыми постоянно наблюдает сотрудник центра фиксации правонарушений. Он же будет передавать инспекторам, находящимся в 3—4 километрах, информацию о тех транспортных средствах, которые передвигаются без регистрационных знаков. Нарушителей остановят и на основе административного протокола привлекут к ответственности. На такие меры ГАИ пошла из-за распространенной в последнее время тенденции среди водителей снимать номера.

В УВД напомнили: «За превышение скорости, зафиксированное в автоматическом режиме, максимальный штраф составляет 5 базовых величин. Если же говорить о водителях, которые снимают свой регистрационный номер умышленно, — 10 базовых величин. В случае повторного административного правонарушения в течение года наказание последует в виде 20 базовых величин».

«Инспекторы будут ловить автовладельцев, снимающих знаки, регулярно, — предупредили в УВД. — Отработки будут проводиться не только на 309-м километре М1, но и на других участках дороги».

«Пересмотрена и сама концепция фиксации скорости, — заметили в милиции. — В ближайшее время будет фотографироваться не только задний номер автомобиля, но и регистрационный знак спереди (фронтально)».

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ?..

# Нядзеля

***У навуковай літаратуры існуюць два супрацьлеглыя пункты гледжання на месца нядзелі ў традыцыйнай сістэме тыднёвага ўпарадкавання і злічэння часу. Прыхільнікі адной версіі лічаць, што нядзеля была першым днём, ад якога пачынаўся адлік часу на новым тыдні. Паслядоўнікі другога сцвярджаюць, што нядзеля ў сярэднявечных календарах лічылася апошнім днём тыдня.***

На карысць версіі, у якой нядзеля выступае зыходным пунктам адліку, сведчаць назва і месца трэцяга дня тыдня — серады. Серада — значыць сярэдзіна, сярэдні дзень. Такім ён можа быць толькі ў тым выпадку, калі адлік пачынаецца ад нядзелі.

Пасля распаўсюджвання хрысціянства нядзеля стала не першым і не апошнім, а ключавым, рытуальна маркіраваным днём тыдня. Гэты дзень быў па-за кантэкстам працы чалавека. Ён лічыўся часам для дыялогу з Космасам, Богам, і яго нельга было прыніжаць паўсядзённымі заняткамі.

Наданне нядзелі статусу выключнасці знайшло адлюстраванне ў культуры славянскіх народаў. Гэты дзень быў асноўным у структуры вясельнага абраду. З яго пачыналася новая старонка ў жыцці маладых. Выключны статус святасці нядзелі паўплываў і на забарону правядзення лячэбных сеансаў у гэты дзень.

У нядзелю нельга прасці, выносіць смецце і попел з печы; у нядзелю не выпякалі хлеб (лепш сядзець увогуле без хлеба, чым парушыць гэтае правіла).

**Аксана КАТОВІЧ, Янка КРУК.**

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

9 772071 964000 13065

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Першы намеснік галоўнага рэдактара Святлана Міхайлаўна КАЛІНКІНА.**



**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 19.08.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26400 экз. Заказ №3402.**